Мікола Чарняўскі

# Колькі ў сонейка сяброў!



*Апавяданні-гумарынкі, вясёлыя вершы, казкі, скорагаворкі, лічылкі, загадкі, навагодняя казка-п’еса, песні*

Мінск, «Кнігазбор», 2009





*Году роднай зямлі прысвячаецца*

# ЖЫВУЦЬ У КРАІНЕ ДЗЯЦІНСТВА...

Як часцей за ўсё пачынаюцца казкі? Правільна: «жылі-былі», «жыў-быў»… Я таксама хачу пачаць сваю прадмоўку на крышку казачны лад.

Не далёка і не блізка, а ў лясной прыгожай старонцы Беларусь жывуць ды падрастаюць два дапытлівыя, здатныя на выдумку і гулі, навучаныя цудам камп'ютарных сакрэтаў, чалавекі — Мікітка і Ангелінка. Не чужыя адно аднаму, а радня, ды блізкая, бо Мікіткаў тата Ангелінчынай маме родным братам даводзіцца. А хто яны, іх дзеці, між сабою? Хутка даведаецеся.

Цяпер яны ўжо ў школу ходзяць, мінуўся не такі ўжо даўні час, калі кожнай раніцай вадзілі іх старэйшыя ў дзіцячы сад, дзе малыя навучыліся складаць з літар першыя словы, самастойна чытаць. Шмат розных кніжак было дома, але чыталі яны іх тады толькі… па малюнках. Калі казаць пра Мікітку, то вельмі любіў ён кніжку, якая называлася «Казкі дзяцей Беларусі». Кожны дзень браў яе ў рукі, садзіўся бліжэй да дзеда, разгортваў на патрэбнай старонцы і загадваў: «Чытай мне пра гэтага чорта рагатага».

Мікітка старэйшы за сястрычку Ангелінку на ўсе дзетсадаўскія гады. Вядома ж, і ў школу ён пайшоў раней, чым яна, таму Ангелінчыных кніжак у вочы не бачыў. Ніхто не чытаў яму казачкі пра гультаяватага ката Мурмылу, якую любіла слухаць





дзяўчынка. Што ж да Ангелінкі, дык ёй — апрача малявання, спеваў ды танцаў — надта ж даспадобы яшчэ гульня ў рыфмы, што асабліва радуе і часам бянтэжыць нават самога дзядулю, які за сваё жыццё прыдумаў не адну сотню іх. Ён, здараецца, бездапаможна рукамі разводзіць (можа, хітруе?), а ў дзяўчынкі нечаканая рыфма ўжо з язычка злятае. Няма ў кватэры ніводнай рэчы, якая засталася б незаўважанай падчас такіх забаў, была пакрыўджана рыфмай. Нават «боцікі-ходзікі».

А загадкі, скорагаворкі, лічылкі розныя? І ім ніколі не сумна, і іх нібыта нехта чапляе на Ангелінчын шчабятлівы язычок, толькі паспявай адгадваць ды «ламаць» свой язык, каб паўтарыць усё ўслед за ёю. Няма часам ахвоты ў дзеда і бабы такім чынам бавіць з унучкаю вольны час, але здаюцца, пагаджаюцца з ёю, ідуць у гарэзніцы на павадку, бо лічаць не пустымі гэтыя гульні-забавы, бо, як і ўсе ў доме, моцна любяць сваю Ангелінку.

Спадзяюся, вы таксама палюбіце іх, шчыра пасябруеце з Мікіткам і Ангелінкай — героямі гэтых нявыдуманых гісторый. Палюбіце за іх кемлівасць і цікаўнасць, наіўна-хітраватую непасрэднасць, вясёлы характар і… сур’ёзнасць да ўсяго, што адбываецца з імі ў дзівосна-казачнай краіне пад назваю Дзяцінства. Яшчэ я спадзяюся, што знаёмства з вашымі равеснікамі Мікіткам і Ангелінкай, магчыма, дапаможа вам, мае маленькія сябры, хутчэй адшукаць сваю сцяжынку ў чароўны і таямнічы свет роднага слова, глыбей пранікнуцца пачуццём любОві да нашай мілай Беларусі — да той зямлі, на якой выпала шчасце нарадзіцца, убачыць блакітнае неба над сабой, адчуць клопат, цяпло і ласку матуліных рук, самых блізкіх для вас людзей.

*Аўтар*

# Любімы занятак, альбо хто сказаў «Кай-й, кай-й»?







## НЕ ЛЕЗЕ… НОЖКА

Вельмі падабаецца трохгадоваму Мікітку ў носіку пальчыкам калупацца. І сварыліся, і ўлагоджвалі — не дапамагае. Глядзела, глядзела на ўсё гэта бабуля Алена дый кажа аднаго разу:

— Ты б, унучак, лепей ножку ў носік засунуў.

Пабег Мікітка з кухні ў спальню. Неўзабаве прыбягае, чырвоны ды сярдзіты:

— Бабуля, не лезе!

— Што не лезе, Мікітка? — не адразу скеміла бабуля Алена.

— Ды ножка ў носік не лезе! — адказаў Мікітка.

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

Тата з Мікіткам глядзяць футбол па тэлевізары, а там — шырокае зялёнае поле, футбалісты ўсё бегаюць ды бегаюць за мячом.

— Цяпер я так не магу бегаць, — уздыхнуў Мікітка. — Вось як вырасту, разаб'ю тэлевізар, ускочу ў яго — от жа пабегаю тады!





## ДЗЕ ГЭТА ДУРАСЦЬ?

Мікітка раздурэўся, бегае па кватэры як апантаны.

— Мусіць, на цябе дурасць напала, — не вытрымала бабуля.

— А дзе яна? — пачаў аглядвацца Мікітка. — Чаму яе не відаць?

— У галаве, — усміхнулася бабуля.

Насцярожыўся Мікітка, абмацаў галаву рукамі, усклікнуў радасна:

— На галаве яе таксама няма!

## МІКІТКА ЧАКАЕ...

Прывык Мікітка да таго, што кожную нядзелю, як толькі прачнецца пасля абеду, заўсёды застаў у кватэры ці бабулю Алену, ці Насцю — цётку, старэйшую за Мікітку ўсяго на шаснаццаць гадкоў. А яны не з пустымі рукамі прыходзілі ў госці: тады шуфлядка-схованка ў яго тумбачцы шчодра папаўнялася ласункамі. З асаблівай нецярплівасцю чакаў Мікітка Насцю — з ёй, апрача ўсяго, можна было падурэць уволю.

Зноў прыйшла нядзеля. Прачнуўся раніцай Мікітка, пакатаўся па кватэры на сваім трохколавым веласіпедзе, пагуляў трошкі з цацкамі. Потым узяў маму за руку:

— Пакладзі мяне спаць! Можа, тады Насця раней прыедзе да мяне.





## ШТО НА ГАЛАВЕ РАСЦЕ?

Няма ўпыну трохгадоваму Мікітку: то падушку з ложка сцягне ды куляецца на ёй, то на кніжную паліцу ўзбярэцца, то з усяе сілы імчыць на кухню, каб ёгуртам паласавацца.

— Мікітка, не хадзі на галаве! — строга паглядзела на ўнука бабуля Алена.

— Бабуля, ты як скажаш! — пакрыўдзіўся Мікітка. — У мяне ж на галаве вушы, а не ногі.

## ХТО ЛЯНІВЫ?

Тата вядзе Мікітку з дзіцячага садка.

— Вазьмі мяне на рукі, — папрасіўся сын.

— Які ты лянівы стаў, Мікітка: не хочаш сваімі ножкамі хадзіць, — сказаў дакорліва тата.

Мікітка прайшоў колькі крокаў моўчкі, а потым кажа тату з тым жа дакорам:

— Сам ты лянівым стаў, татка! Не хочаш сына на рукі ўзяць.



## 10

## ДЗІВА

Раніцай тата будзіць Мікітку:

— Уставай, сынок, я зараз буду па радыё выступаць. Пойдзем паслухаем разам.

— Добра, татка, пойдзем, — ахвотна згадзіўся Мікітка. — Толькі скажы: як ты, такі вялікі, залезеш у радыё? У ім жа такая маленькая шчылінка!

## РАДАСЦЬ

Улетку Мікітка быў у вёсцы, катаўся на дзедавай кабыле Каштанцы. Гэта яму вельмі падабалася.

Мінула з паўгода. Убачыў Мікітка аднаго разу, што мама чаруе над валасамі.

— Што ты робіш, мама? — пацікавіўся Мікітка.

— Фарбую валасы, сынок, — адказала мама.

— А якімі яны стануць?

— Каштанавымі.

— Ура! — у захапленні запляскаў у ладкі Мікітка. — Наша мама Каштанкай стане!

## ДЗЕ БАБУЛЯ ЖЫВЕ

Едзе Мікітка ў аўтобусе. Да бабулі ў вёску. Вясёлы, радасна ўсміхаецца, маму пра ўсё распытвае.





— Куды ты едзеш? — пацікавілася незнаёмая цётка, якая сядзела поруч.

— Да бабулі, — адказаў малы.

— А дзе ж яна жыве?

— У хаце, — усміхнуўся жанчыне Мікітка.

## БЯСКРЫЛЫЯ КАРОВЫ

Статак вяртаецца з поля. Бабуля Уладзя просіць Мікітку:

— Дапамажы, унучак, пераняць кароў, каб у жыта не паляцелі.

Глянуў Мікітка недаўменна:

— Бабуля, а як жа яны паляцяць? У іх жа крылаў няма!

## ЛЮБІМЫ ЗАНЯТАК

Раніцай Мікітка прыйшоў у садок не з пустымі рукамі: прынёс фігуркі з пластыліну, якія вылепіў сам.

Падзівіліся на іх выхавальніца з нянечкай дый пытаюць:

— Мікітка, што ты любіш больш за ўсё на свеце рабіць?

Задумаўся Мікітка, а пасля адказаў:

— Гуляць.





## ПАД КОЛЕР САНДАЛІКАЎ

Мікітка глядзіць, як прабягаюць легкавушкі за акном тралейбуса. Убачыў машыну жоўтага колеру, ажывіўся:

— Як вырасту, і я сабе такую куплю.

— Жоўтую? — здзівілася мама. — А чаму не сінюю?

— Пад колер маіх новых сандалікаў, — сур'ёзна адказаў Мікітка.

## ХТО СКАЗАЎ «КАЙ-Й, КАЙ-Й»?

Мікітка з мамаю вяртаўся нядзельным надвячоркам ад бабы Любы і дзеда Анатоля ў горад. Ледзьве ўбіліся ў перапоўнены аўтобус. Ніхто ім месца не ўступіў, але нейкі дзядзька ўзяў Мікітку, пасадзіў сабе на калені.

— Як цябе завуць, хлопчык? — пацікавіўся добры незнаёмец.

— Мікітка, — адказаў малы.

Калі праехалі трохі, незнаёмы дзядуля, які сядзеў у іх за спінаю, нечакана пацікавіўся:

— Дык, можа, скажаш, як цябе завуць, унучак?

— Мікітка, — павярнуўшыся на голас, спакойна адказаў Мікітка.

Усім спадабалася Мікіткава самавітасць ды згаворлівасць, людзі ўсміхаліся, а дзядуля запусціў руку ў сумку, нешта шукаючы ў ёй, каб, напэўна, пачаставаць малога. Перапоўнены гаманкі аўтобус бег далей.





— Дык як жа завуць цябе, хлопец? — падаўшыся наперад, раптам спытаў яшчэ адзін пажылы дзядзька, які сядзеў трохі воддаль.

— Ваёна, — не вытрымаў Мікітка, якому, відаць па ўсім, надакучыла адно і тое ж пытанне. І перадражніў: — «Кай-й, кай-й, кай-й!»

Праўда, гэты адказ добра зразумела толькі мама, бо ў Мікіткі выйшла да незвычайнага смешна: «Ваёна» і «Кай-й, кай-й, кай-й!» Людзі ж не ведалі, што малы Мікітка яшчэ не навучыўся цвёрда вымаўляць літару «р», таму ніхто не пакрыўдзіўся: усе толькі недаўменна пераглянуліся між сабою, заўсміхаліся і чамусьці… прымоўклі.

На станцыі, падхоплены мамінымі рукамі з прыступак аўтобуса, Мікітка азірнуўся, прыжмурыў вочы і, усміхаючыся, памахаў рукой на развітанне. Каму? Ды ўсім, хто ехаў у аўтобусе.

## ЯК МІКІТКА… СУКЕНКУ З’ЕЎ

Прыехаў Мікітка да бабулі Алены ў госці. Пачаставаліся, тады бабуля і пытае:

— А ты, Мікітка, не забыў беларускія словы, добра ведаеш іх?

— Не, не забыў, — упэўнена адказаў унук, запіхваючы ў рот цукерку. — Можаш праверыць, як я гавару.





— Тады так зробім, — ажывілася бабуля Алена, — я спачатку буду вымаўляць словы па-руску, а ты — пераказваць іх за мною па-беларуску. Перакладчыкам будзеш. Дамовіліся?

— Дамовіліся, — згадзіўся ўнук і заадно пацікавіўся: — А што робіць перакладчык?

— Зараз пабачыш сам, — яшчэ болей ажывілася бабуля і пачала падшукваць у памяці словы, якія можна было б задаць унуку. А Мікітка пасур'ёзнеў, нават цукерку за шчакою прытрымаў.

Бабуля ж пачала:

— Клюква.

— Журавіны.

— Лук.

— Цыбуля.

— Картошка.

— Бульба.

— Носки.

— Шкарпэткі.

— Сахар.

— Цукар.

— Бумага.

— Папера.

— Аист.

— Бусел…

Гэтак перабралі дзесяткі з два слоў. Убачыўшы, што ўнуку ўсё даецца лёгка, бабуля Алена прапанавала:





— А цяпер давай наадварот зробім. Будзем словы пераказваць з беларускай мовы на рускую.

І ўжо на першым слове нечакана спатыкнуліся.

— Сукенка, — вымавіла бабуля Алена, з усмешкай зірнуўшы ў вочы ўнуку.

— Канфента, — хуценька пераклаў Мікітка і языком перакінуў «канфенту», як ён па-свойму вымаўляў, за другую шчаку.

— Авой! — прытворна здзівілася бабуля Алена. — Няўжо ты можаш з'есці… платье? Сукенка — па-руску «платье»!

— Не, бабуля, ты жартуеш, — пакрыўдзіўся Мікітка. — Я добра ведаю, што цукерка — гэта канфента.

— Дык я ж пра сукенку гаварыла, — аж крышку разгубілася бабуля Алена.

— А я пра цукерку, — соладка прыцмокнуў Мікітка.

Абодва задаволена рассмяяліся. Асабліва радаваўся Мікітка: пабыў жа перакладчыкам. А што недачуў трошкі — з кім такога не бывае?

## НЕЗВЫЧАЙНЫ СЛОЎНІК

Зноў прыехаў Мікітка ў госці да дзеда Міколы і бабулі Алены. Не адзін, вядома, а з татам і мамай. Хто ж аднаго адправіць праз увесь горад, з Малінаўкі ў Зялёны Луг, калі табе ўсяго пяць гадкоў стукнула?! Зачакаліся ўнука





дзед і баба. Клапатліва падрыхтавалася да сустрэчы жаданага госця бабуля, розных прысмакаў на стол паставіла: «Еш, унучак!»

Сядзіць Мікітка за сталом, зайздросна сардэльку са смажанай бульбай уплятае, капусткай прыкусвае ды кефірам запівае. Хоць ведае, што гэта не ўсё яшчэ, не трэба надта націскаць на пададзеныя стравы, але ж прагаладаўся добра за дарогу.

Дзед Мікола, які сядзеў насупраць і падахвочваў Мікітку, раптам спытаў з усмешкай:

— А ведаеш, унучак, як называецца той, хто вельмі любіць сардэлькі?

— Сардэльнік, — нечакана для дзеда, з такой жа жартаўлівай усмешкаю адказаў Мікітка.

— А той, хто любіць бульбу? — здзіўлены папярэднім адказам, зноў запытаўся дзед Мікола.

— Бульбянік.

— А той, хто любіць капусту?

— Капуснік.

— А той, хто любіць чай?

— Чайнік.

— А той, хто любіць піць ваду?

— Воднік.

— А той, хто любіць цукеркі?

— Цукернік…

Такая незвычайная гульня спадабалася абодвум. Дзед пытаў, а ўнук хуценька і вынаходліва адказваў.



## 17

Не ўтрымалася і бабуля Алена: падсела побач, да іх гульні падключылася. Перабралі ўсе пачастункі, што на стале стаялі, а заадно і тыя прысмакі ды ласункі, якія былі заўсёды малому даспадобы. Так, дзякуючы Мікіткавай кемлівасці і фантазіі, у іх доме з’явіўся яшчэ адзін «слоўнік», дзе пераважалі не ўсім знаёмыя словы: «кісельнік», «кампотнік», «варэннік», «тортнік», «напітнік», «лімоннік», «бананай» (той, хто любіць бананы), «жвачнік», «аладнік»…

— Мікітка, а сам ты хто, што табе сама больш падабаецца? — зноў жартаўліва запытаў дзед Мікола.

— *Я*? — гарэзліва перапытаў унук. — *Я* — сардэльнік. Сардэлькі вельмі люблю.

— О, гэта добра, унучак, — узрадавалася ад пачутага бабуля Алена. — Хутчэй вырасцеш вялікім, дужым станеш!

Мікітку таксама спадабалася тое, што пачуў ад бабулі. Ён чамусьці пасур’ёзнеў і дадаў, але ўжо без ранейшай хітраватай усмешкі:

— Тады я стану яшчэ сасіснікам, бульбянікам, кефірнікам, хлебнікам і…

Дзед і баба задаволена пераглянуліся: хіба хто з іх чакаў, што гэтак хораша закончыцца гульня ў словы?



18

# А ШТО Ж ЯНА ЎМЕЕ?

Спачатку не надта ўзрадавала Мікітку навіна: у яго з'явілася дваюрадная сястрычка Ангелінка. Не брацік, як хацеў, а сястрычка. Тыдні праз два звоніць ён са сваёй Малінаўкі ў Зялёны Луг. Цікава ўсё ж, як там Ангелінцы жывецца.

— Дзед, а можна пагаварыць з Лінай? — адразу ж пачаў ён. — Ці добра яна ўжо навучылася гаварыць?

— Што ты, унучак! — здзівіўся дзед. — Калі было?! Не ўмее яшчэ размаўляць, рана!

— А бегаць умее? — зноў спытаў Мікітка.

— Ды не, не ўмее. Яшчэ ж маленькая зусім.

— І поўзаць не ўмее? — пасля некаторага маўчання зноў пацікавіўся Мікітка.

— Не ўмее.

— Не ўмее? А што ж яна тады робіць? — расчаравана ўздыхнуў у тэлефонную трубку Мікітка.

— Паесць ды спіць. Як і ты, калі быў такім жа, як яна, — стрымліваючы смех, патлумачыў дзед.

— Паесць ды спіць? Я так не змог бы, — здзівіўся Мікітка і паклаў трубку.





# ДЗЕД МІКІТКА

Тата нават не даўмеўся,
Што ў Мікіткі многа спраў.
За сталом хлапчына ўсеўся,
Ручку ўзяў,
Паперу ўзяў.

Лёг на твар малога одум,
Быццам хмарка наплыла.
Скрэмзаў ліст Мікітка, потым
Вылез жвава з-за стала.

Баба пошту ў дом прынесла —
Ён газеты падхапіў,
Ля акна прысеў у крэсла,
Акуляры начапіў.

Моўчкі губкамі мыляе,
Штосьці шэпча ён пад нос…
Ці напраўду,
Ці гуляе?
Да чытання ж не дарос!

Дзе гарэзлівасць, дзе прыткасць?
Можа, раптам аслабеў?
«Перастань дурэць, Мікітка!» —
Пальцам грозіць… сам сабе.





Тату смешна, бабе ўцеха.
А ў яго — гульня свая:
— Дзед на дачы, дзед паехаў,
Дзедам сёння
Буду я!

## КАМАР МІКІТКА

Пэўна, весела суседзям,
І Мікітку чуе дом:
Быў ён зайцам,
Быў мядзведзем,
Сёння ж стаў ён… камаром.

Развінуўшы крылы-рукі,
Ён лятае,
Ён гудзе.
Дзед з бабуляй ад унука
Не схаваюцца нідзе.

Уцякаюць, хоць і млосна, —
Закрываюць хусткай твар:
Ён куслівы,
Грозны,
Злосны,
Гэты шустранькі камар!



**21**

Пагайсаўшы па пакоях,
Дзед прыстаў,
Параду даў:
— Ты не быў, унук, лісою,
Можа б, лепей ліскай стаў?

Ды не зменшылася гуду,
Ды не сціхла гамана:
— Дзед, я ліскаю не буду —
Крыўдзіць зайчыка яна.

Што рабіць?
Камар з імпэтам
Зноў на дзеда наляцеў.
Скеміў той:
З кусліўцам гэтым
Так не ўладзіш, як хацеў.

На бабулю глянуў мелькам:
— Што ў прыпасах ёсць тваіх?..
Злосна гуў камар маленькі,
Але ўбачыў карамелькі —
І суцім, прыліп да іх.



**22**

# ДЗЕ ПАПРУГІ?

Тата ў пошуку, у злосці,
Тата дома ўсё трасе.
Што з ім сталася?
Ды хтосьці
Пахаваў папругі ўсе!

Тата змогся поўзаць, ла́паць,
Лоб ад поту заблішчэў:
— Ён адзін, Мікітка, мабыць,
Пахаваў іх.
Хто ж яшчэ?

Што за навалач такая,
Без папруг усе штаны!..
Сын жа сцішана чакае:
Неслух знае,
Дзе яны.

Тату іх знайсці не проста,
Ў сына схованак — мільён!
Здагадайцеся:
Навошта
Пахаваў папругі ён?

# Я – сонейка, альбо Чаму майка кароткай стала





25

# ПАДЗЯЛІЛАСЯ...

Падарыла мама Ангелінцы на дзень нараджэння вялікі карабок алоўкаў. Ды не звычайных, а каляровых. Спачатку дзяўчынка нешта малявала. Потым надакучыў ёй гэты занятак, пачала гуляць з алоўкамі. Рассыпала іх у пакоі, лічыць узялася. Палічыла да дзесяці, колькі ўмела, да дзядулі звярнулася:

— Дзед, падбяры аловачкі.

— Сама рассыпала, сама і падбяры іх, — сказаў дзядуля.

Пастаяла, пастаяла Ангелінка над алоўкамі, да бабулі на кухню пабегла.

— Баба, ты хочаш са мной падзяліцца?

— А чым жа з табой дзяліцца, унучка? — здзівілася бабуля.

— Хадзем, я пакажу.

Падвяла да рассыпаных алоўкаў, ручкаю паказала на іх:

— Давай, баба, дзяліцца будзем. Палавіну падбяры ты, а палавіну падбяру я.

— Ах ты, хітруха! — засмяялася бабуля і ўслед за ўнучкаю ўзялася падбіраць алоўкі ў карабок.





## ЗВЯРЫНЕЦ ЗАХВАРЭЎ…

Любяць Ангелінку дома, ласкава зайчыкам называюць. Слухала, слухала дзяўчынка ды сама ўсім мянушкі прыдумала на свой лад. Першаму — дзеду Міколу. Стаў ён мядзведзем, Міхайлам Патапавічам. Баба Алена лісой зрабілася, Лісаветай Патрыкееўнай. Мама — Вавёрачкай, а тата — Барсуком.

Зімою, калі пачынае лютаваць праступа, першы захварэў тата. За ім — баба. Не ўбераглiся і Ангелінка з мамай, таксама захварэлі. Толькі дзед трымаецца: вядома ж, мядзведзь! Тупае які ўжо дзень каля хворых, тэмпературу мерае, есці падае, у аптэку па лекі ходзіць.

Ляжыць у пасцельцы Ангелінка, аблізвае перасохлыя вусны язычком, бядуе:

— Дзед, што рабіць? Захварэў увесь наш звярынец!

## НА ЯЗЫЧОК БРАЛА…

Ангелінцы яшчэ цяжка разабрацца, хто кім ёй даводзіцца, таму і прадзеда і прабабку называе так, як разумее: дзед Юзік, баба Уладзя. Яны ўсё жыццё пражылі ў вёсцы, толькі нядаўна ў горад да дзяцей перабраліся. Зразумела, гаворка ў іх свая, мясцовая.

Даведаўшыся, што Ангеліна захварэла, прыехаў дзед Юзік яе праведаць. Узрадаваўся, калі ўбачыў малую вясё-





лай, шчабятлівай. Сядзіць, толькі паспявае на яе пытанні адказваць.

— А чаму баба Уладзя не прыехала? — раптам запыталася Ангелінка.

— Бабе цяжка хадзіць, ногі баляць, а на вуліцы снег ест, многа снегу, — адказаў дзед Юзік на сваёй вясковай гаворцы.

Не магла ж здаўмецца Ангелінка, што «ест» — гэта «ёсць», перапытала:

— Баба Уладзя есць снег? Скажы ёй, што снег есці нельга. — І патлумачыла: — У нас у садку Оля снег ела, Юля, Верачка… Дык захварэлі. Тэмпература ў іх. Таблеткі ім даюць. У садзік не ходзяць. А баба Уладзя як маленькая. Скажы, што ёй уколы даваць будуць…

— І ты, мусіць, снег ела, бо дома сядзіш? — усміхнуўся дзед Юзік.

— Не, не ела. Толькі на язычок брала, — крутнулася Ангелінка і шмыгнула ў свой пакойчык. Здагадалася, відаць, што дзед хоць і не доктар, але можа сказаць: «Пакажы язычок!»

## СОНЕЧНЫЯ РУЧКІ

Бабуля прывезла з дачы пучок вярбовых галінак, з жоўтымі коцікамі на іх. Паставіла ў слоік на палічку. Патрымалася Ангелінка за коцікі — далонькі сталі жоўтымі ад пылку.





Падышла, вясёлая, да дзеда.

— Дзед, якія ў мяне ручкі сталі?

— Жоўценькія.

— Не, не ўгадаў. Мае ручкі сталі сонечныя. — І пабегла, падскокваючы, на кухню да бабулі: — У мяне сонечныя ручкі! У мяне сонечныя ручкі! Я — сонейка!

## МАЙКА КАРОТКАЙ СТАЛА

Набегалася, накаталася Ангелінка на вуліцы. Вярнулася з мамай дадому — адразу есці папрасіла.

Пакаштавала макаронаў з катлеткай, потым крабавыя палачкі пасмакавала. Заела ўсё марожаным. А тут дзед яшчэ пакецік яе любімага таматнага соку прынёс. І яго выпіла праз трубачку.

Задаволеная, падышла да дзеда, на жывоцік паказвае:

— Дзед, паглядзі, як я наелася, — ажно майка кароткай стала.

## ЯК «С» НА НЕБА ЗАЛЯЦЕЛА

Выйшла Ангелінка ўвечары з бабуляй на вуліцу. На небе ўзышоў сярпок маладзічка. Убачыла маладзічок малая, усклікнула ў захапленні:

— Баба, глядзі, літара «с» з майго буквара на неба заляцела! Як яна змагла?



29

## З АДНОЙ ШКАРПЭТКАЙ

Ходзіць Ангелінка па кватэры. Адна нага босая, на другой — шкарпэтка.

Баба пытае:

— Чаму ты з адной шкарпэткай ходзіш? Чаму на другую нагу не надзела?

Здзівілася Ангелінка:

— Баба, як ты не разумееш! Адной назе — цёпла, а другой было холадна.

## КАБ ЕЗДЗІЦЬ НЕ ЗАМІНАЛІ

Купілі Ангелінцы веласіпед. Не маленькі, як раней, а «дарослы» — двухколавы, са званком. Едзе дзяўчынка па тратуары, на званок раз за разам націскае. Ды яшчэ язычком падсабляе: «Дзын-дзын-дзын! Дзын-дзын-дзын!»

— Ангелінка, нашто табе гэты званок? — прыпыніў яе сусед дзядзька Мікола.

— Каб людзі неміналі ездзіць, — адказала Ангелінка і пашыбавала далей, назвоньваючы: «Дзын-дзын-дзын! Дзын-дзын-дзын!..»





# НА ДАЧЫ

Прыехалі на дачу. Там усё цікава Ангелінцы. Падышла да хлеўчыка, убачыла шуфель, узяла яго, пачала па цэментавай дарожцы шоргаць ім. Не вытрымаў тата, выйшаў на ганак, загадаў:

— Пастаў на месца!

Але ж ці супакоіцца свавольніца адразу?

— Што гэта? — запыталася малая, паказваючы на шуфель. — Чаму я не бачыла такой шырокай лапаты раней?

— Дачушка, гэта лапата, якой адкідаюць снег, — растлумачыў тата і дадаў з усмешкай: — Вось убачыць зіма, што яе бярэш, і сёння ж вернецца да нас.

Кінула Ангелінка шуфель пад хлеўчык, закрычала спалохана:

— Ой, забярыце, забярыце і схавайце! Я не хачу зімы! Я яшчэ хачу, каб лета было! Хто ж мяне зімою на дачу возьме?!

# ДА САМАГА НЕБА

Спадабалася гарэзніцы ды выдумшчыцы Ангелінцы адно параўнанне. Кожны раз, пра што б ні распытвала дзеда ці бабу, абавязкова ў захапленні ўдакладняла: «Да самага неба?»





Стаіць дзяўчынка ля акна, любуецца, як сарока і варона на галінках бярозы раскалыхваюцца. Адна — стракоча, другая — звыкла каркае. Слухае іх незвычайны канцэрт Ангелінка, з бабуляй перамаўляецца:

— Баба, ты мяне любіш?

— Люблю.

— Моцна любіш?

— Моцна-моцна.

— Да самага неба ці да самай вярхушкі нашай бярозы?

Што тут скажаш? Падхапіла бабуля ўнучку на рукі, цалаваць пачала, замілавана прымаўляючы:

— Да самага неба, да самага неба, унучачка!

— І я цябе так люблю, — яшчэ мацней прытулілася Ангеліна да бабулінай шчакі. — І сароку з варонай, бо яны мне кашку варылі і праз фортачку студзілі. Ты ж сама гаварыла ўчора.

## АДНОМСЦІЛА

Моцна сябруе Ангелінка з бабуляй. Ды аднаго дня не паладзіла з ёю з-за гармідару ў пакоі, які ўчыніла раніцай. Нахмурылася Ангелінка, з пакоя не выходзіць. Потым выйшла.

— Баба, а сёння свята, — нават не ўсміхнуўшыся, сказала ўнучка.





— Якое свята, Ангелінка? — здзівілася бабуля.

— Дзень грубіянаў, — націскаючы на «р», адказала Ангелінка і, задаволеная, што хоць гэтак «адпомсціла» бабулі, зноў пайшла да сваіх лялек ды цацак.

## АРТЫСТАЧКА

Не ўтрымаць яе ад рання
Нават на хвіліначку:
Як пачуе спеў ці гранне —
Цягне ў танцы Ліначку.

Дзед з бабуляй у гуморы —
Іх унучка ласкава
То ўзнімае ручкі ўгору,
То ў далонькі пляскае.

На сваёй спявае мове
Ліна з асалодаю.
Што спявае —
Мала ўловіш,
Бо адна мелодыя.

Як знаходзіцца другая —
Ёй бубенчык памагае.

Тата пырхае, як птушка,
Плешча ў ладкі горача:





— Ты ж артыстачка, дачушка,
Ты ж эстрады зорачка!

Як не пляскаць, не здзіўляцца
Спевам, танцам просценькім,
Бо танцорцы і спявачцы —
Толькі годзік
З хвосцікам!

## НОЧ ЗА ГОРЫ СПАЦЬ ПАЙШЛА...

Дзень спякотны прамінуў,
Шэры адвячорак
У нябёсах сыпануў
Шчодра жменю зорак.
Да яго адразу ж ноч
Выйшла на сустрэчу:
«Ну, цяпер дахаты кроч,
Адпачні ўжо, вечар».
Заставалася адно —
Легчы на абшары…
І суцішылася ноч
Пад калматай хмарай.
Сонца глянула крадком —
І праз шоўк фіранак
Заглянуў здаля ў пакой



## 34

Новы, свежы ранак.
Лінка села да стала:
— Тата, ноч прапала?
— Не, за горы спаць пайшла…
— Дык яна ж
Тут спала!

# Хвілінкі-весялінкі ад Мікіткі і Ангелінкі







# ДЗЕ ЖЫВУЦЬ СКОРАГАВОРКІ?

## Абібок

У бычка баліць бачок —
Адляжаў бачок бычок.
На другі б крутнуўся бок,
Ды ляжыць,
Бо — абібок.

## Едзе вожык...

Едзе вожык на кані:
«Паспрабуй дага-ні-і!»
Паспрабуй дагані,
Калі вожык
На кані!

## Гузак

Гагатаў шыпун-гусак:
— Дык-індык
Прынёс гузак!
Дзеўбануў той гусака:
— Сам даўно
Без гузака?





## Што з Цімошкам?

Насцярожыўся Цімошка:
— Што гудзе, камар ці мошка?
Да Цімошкі ліпнуць мошкі —
Твар запэцканы ў Цімошкі.

## Будоўля

Пад сасонкай у цішы
Мур муруюць мурашы.
Час дарма не марнавалі —
Мур за суткі змуравалі.
Гэты мур у бары,
Як убачыш —
Не буры!

## Жвавыя вавёрачкі

Дзве жвавыя вавёрачкі
Скакалі праз вяровачкі.
А трэцяя вавёрачка
Шукала: «Дзе вяровачка?»

## Воўчая крыўда

Воўк вяроўку віў,
Воўк ад крыўды выў:





«Што мне гэта віццё?
Я люблю выццё!»

## Пачастунак

Пірог прынёс піражнае,
Пачаставаў пірог.
Піражніца парожняя,
Пірог — за парог.

## Ценькае сініца...

Ценькае сініца —
Цэлы месяц сніцца:
Цуд гасцюе
У сініц —
Цёпла ўзімку
Ад суніц.

## Мышка і мармышка

Села мышка на мармышку:
— Памагу рыбачыць Мішку, —
Падчаплю я шчупачка
Без прынады,
без кручка.
Зняў з мармышкі





Мышку Мішка:
— Ты рыбач у норцы, мышка!

## Мурка на падмурку

Села Мурка на падмурку,
Не сагнаць з падмурка Мурку.
Грэецца ды муркае:
— Змерзну без падмурка я…
Вочы жмурыліся ў Муркі:
— Хто са мной
Згуляе ў жмуркі?

## Касіў касы…

Касіў касы*
Каля касы**,
Зламаў касы
Кассё ў касы.
Касы, вачамі
Не касі,
Касой тупою
Не касі!

* Касы — заяц.
** Каса — вузкая палоска лесу ўскрай поля.





# ЛІЧЫЛКІ – АД СУМУ ЛЯЧЫЛКІ

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Выбег зайчык пагуляць.
Дзень мінае,
Ноч мінае —
Зайчык бегае, гуляе.
Надакучыла чакаць,
Пойдзем зайчыка шукаць —
У прылесак, у кусты.
Павядзеш усіх нас —
Ты!

* * *

Хітры хомка-хамячок
Схамянуўся — і маўчок.
Ён маўчыць, маўчаць ён рад —
Рот паўнюсенькі зярнят.
Ты таксама не маўчы:
Колькі нас тут —
Палічы!





* * *

У бярэзнічак рабы
Мы хадзілі па грыбы.
Каля самай сцежкі
Бралі сыраежкі.
Дзе чарнелі шапкі —
Бралі там абабкі.
Пад лістотаю старой
Баравік сядзеў гарой.
А лісічкі з маслякамі —
Дык у кошык лезлі самі.
З гаю іх прынеслі ў двор…
Хто ж застаўся?
— Му-ха-мор!

* * *

Каляровы папяровы
Змей лятаў.
З-пад аблокаў вечаровых
Вы-гля-даў:
Дзе Міхаська-бегунок,
Дзе Адаська-вертунок,
Дзе Настуся-балаўніца,
Дзе Дануся-працаўніца?
Ці чытаюць,





Ці гуляюць,
А ці маме памагаюць?
Калі ж рана леглі спаць,
Хай мяне
Прысняць!

* * *

Яблык нёс дахаты вожык
І знайшоў на сцежцы ножык.
Ён хутчэй падняў знаходку:
— Папрацую я ў ахвотку,
Ім нарэжу крышаноў
Цэлых восем кашалёў.
На зіму іх насушу,
Вас у госці запрашу, —
Навару кампоту кадзь.
Дзе жыву —
Табе шукаць!

* * *

Вёз вазáк лучынак воз,
На кірмаш спяшаўся, вёз.
Каля брамы конь прыстаў,
Прадаваць іх дзядзька стаў:
За лучынку





Дай лічылку…
Ён дамоў замест лучынак
Поўны воз прывёз лічылак.
Іх усе раздаў сынам.
Гэту ж ён
Пакінуў нам.

* * *

Што такое,
Што такое,
Што за гоман у двары?
На вячоркі талакою
Нясуць ступу камары.
Будуць мак
У ёй таўчы.
Ты не хочаш
Памагчы?





# НА ЗАГАДКІ ЁСЦЬ АДГАДКІ?

* * *

Без нары не можа жыць,
Хвост пушысты мае.
Як ад ворага бяжыць, —
След ім замятае.
Хто такая?

*(Ліса)*

* * *

Пад шапкаю,
Ды не грыб.
На ножцы,
Ды не расту.
А з малатком спаткаюся —
У дошку ўміг схаваюся.

*(Цвік)*

* * *

Па лістоце ля дарожкі,
Як жывы, клубок паўзе.
На кароткіх туп-туп-ножках





Воз іголак ён вязе.
Хто яго кранецца —
Быццам апячэцца!

*(Вожык)*

* * *

Узнімаюся —
Бялею.
А саджуся —
Чырванею.

*(Сонца)*

* * *

Дзве рукі ўгару ўзніму —
Павязу людзей гурму.
Апушчу раптоўна іх —
І спынюся ў той жа міг.

*(Тралейбус)*

* * *

Не ад гонару заўсёды
Бегаем з узнятым носам,
І зімой дзяцей чароды,
Як на крылах,





З горак носім.
Любім смех дзятвы ад ранку,
Як завуць нас?
Проста…

*(Санкі)*

* * *

Вясёлы нораў маюць —
За ногі нас трымаюць,
Ды не стаяць —
Бягуць…
Як іх, гарэз, завуць?

*(Лыжы)*

* * *

Шыю выгнуў, як гусак,
На пліце заўжды пасецца.
Як пабачыцца з агнём —
Парай чмыхне, затрасецца.
Пачастуе нас усмак.
Хто ён, гэтакі гусак?

*(Чайнік)*





* * *

Ногі, вушы, спінка,
Шорсткая шчацінка,
Хвост-кручок,
Нос-пятачок…
Ну, а разам?

*(Парсючок)*

* * *

Адкажы, калі ахвота,
Што за дзіўная істота
Ходзіць з віламі на лбе,
На лужку м-му-рог скубе,
Як і дзеці,
Любіць жвачку?
Як завуць яе, дзівачку?

*(Карова)*

* * *

Што за ніткі ў летні дзень
Хмарка чорная прадзе?

*(Дождж)*





* * *

Улетку кропелькай была,
Вясёлаю дажджынкай.
А іней лёг,
Зіма прыйшла —
Зляцела ўніз…

*(Сняжынкай)*

* * *

Ён — брат цыбулі ўсе вякі.
Не зубы мае, а зубкі.
Калі ж кранеш,
Чакаць не змусіць —
За твой язык балюча ўкусіць.
Ды ты не бойся,
З’еш зубок:
Ён — вітамін, завуць…

*(Часнок)*

* * *

Спярша зялёны,
Пасівелы потым,
Што за агонь
Расце пад плотам?

*(Крапіва)*





* * *

Не званочак,
А звініць.
Ног не мае,
А бяжыць.
Як гарэза,
Скок ды скок:
Ён — вясёлы…

*(Ручаёк)*

* * *

Ногі мае, іх чатыры.
Рухавік — работнік шчыры.
Ногі — колы,
Ногі — шыны.
Цяжка людзям без…

*(Машыны)*

* * *

Домік гэты часта нам
Сустракаецца ля крам.
На тралейбусным прыпынку
Затрымае на хвілінку:
«Ты паспеў купіць газету?





Там навін — з усяго свету!»
Кожны дзень зімой і летам
Рады ўсім ён, домік гэты.
Толькі з ім сябруй, чытай.
Як завецца, адгадай!

*(Газетны кіёск)*

* * *

Сонца ўстала — і ад рання
У траве чуваць іграннe.
Хто на скрыпцы ўсе дзянькі
Грае, як на святы,
Сам зялёненькі такі
І скакун заўзяты?

*(Конік)*

* * *

Ходзіць панадворкамі,
Не адна, а з зоркамі.
У дамы заглядвае,
Дзетак спаць укладвае.
Сон-дрымоту прынясе.
Як яе завуць усе?

*(Ноч)*





* * *

Я крочу ўдзень і ўночы,
Не ведаю знямогі.
Цыферблат — вочы,
Стрэлкі — ногі.

*(Гадзіннік)*

* * *

Чырвоны, даўганосы
Твар у зямлі хавае.
Мо расчасала б косы,
Ды грабянца не мае.

*(Морква)*

* * *

З песняй сумнай
Шматгалосай
Што за ключ
Плыве ў нябёсах?

*(Жураўліны ключ)*





* * *

З дрэва лётае на дрэва,
Парашута ёй не трэба
Для паветраных дзівос —
Парашутам служыць хвост.
Лётаць ёй — не навіна.
Адгадайце, хто яна.

*(Ваверка)*

* * *

Што за званочак
Дзень пры дні
Звініць вясной
У вышыні,
А лета прычакае —
Змаўкае?

*(Жаўранак)*

* * *

За пруты,
Як за рукі, трымаецца.
Сядзеш толькі ў яго —
Разгайдаецца.
Угару, паслухмянае досыць,





Як на крылах,
Люляе і ўзносіць.
Што за крэсла такое ў двары
Дорыць радасць усёй дзетвары?

*(Арэлі)*

* * *

Рана-раненька ўстаю,
Людзям ласку раздаю.
Днём не сходжу з сінявы
Ды працую, як і вы.
Як і вы, іду я спаць —
Заўтра раненька ўставаць.

*(Сонца)*

* * *

З-пад ігліцы
Вылез ён
І трымае
Парасон.
Хто такі?

*(Грыб)*





* * *

Хоць таго сам не хачу,
Буркачу ўсё, буркачу.
Маю друга,
Гэты друг —
Вастраносы ўпраўны плуг.
Рада поле мне вясной,
Рада слухаць буркат мой,
Бо такі ў мяне характар,
Бо не злоснік я,
А — …

*(Трактар)*





# Задачка

Курка на рынак схадзіла,
Жменьку зярнятак купіла.
Жменьку зярнятак купіла,
Дзеткам усё падзяліла.
Дзевяці кураняткам
Выпала па два зярняткі.
Адно ад чародкі адбілася
І на дзяльбу спазнілася.
Колькі было зярнятак?
Колькі было куранятак?

# Дзеткі-краскі, любіце казкі?







# КАНЮШЫНКА

Жыла-была Канюшынка. Чырвоная. Пачула яна неяк ад Пчалы, што ёсць у яе сястрычка — Белая Канюшынка. Вельмі ж захацелася Чырвонай Канюшынцы пабачыцца з ёю, пасяброваць. Але як сустрэцца? Хацела распытаць Пчалу, дзе яна жыве, ды не паспела. Паляцела тая: пчолам лягчэй браць мёд з кветак белай канюшыны.

Пачала Чырвоная Канюшынка прасіць Асу, якая раптам загула-закружыла над ёю, быццам прыглядалася.

— Дапамажы, занясі ад мяне ліст сястры.

Ухмыльнулася Аса:

— Дасі мёду, тады пастараюся.

Дала Чырвоная Канюшынка мёду Асе. Тая ж толькі засмяялася злосна:

— Хіба дурная я — ляцець за свет, шукаць тую Белую… Яе пчолы больш любяць.. А я — не…

— Падманшчыца, — усклікнула Чырвоная Канюшынка. — Не дам табе болей мёду!

— А я і прасіць не буду. Ты ведаеш, колькі салодкіх груш ды яблыкаў спее цяпер у садах? Мёду ў іх — бяры не хачу, — пахвалілася паласатая. — А ў цябе, даражэнькая, захачу — сама вазьму, колькі мне трэба! — І ўджаліла Канюшынку, адбіраючы мёд.

Прыляцеў Чмель. Махнаты, грозны з выгляду. Загуў басавіта:

— Чаго зажурылася, Канюшынка?





— Чула ад Пчалы, што ёсць у мяне сястра — Белая Канюшынка. Як з ёй пабачыцца — не ведаю. Жыве, мусіць, далёка адсюль.

— Я ведаю, дзе яна жыве, — прагудзеў самавіта Чмель.

— Праўда? Можа б, ты перадаў ёй ад мяне ліст і мой падарунак — кветачку? Я прасіла Асу…

— Знайшла каго прасіць, — зноў прагудзеў Чмель. — Гэта нахабніца абярэ цябе, а нічога не зробіць. Я ведаю, хто табе дапаможа пабачыцца з сястрою.

— Хто?

— Дзяўчынка Насцейка. Яна прыехала ў вёску да бабулі. Збірае цяпер гербарый на лужку — розныя раслінкі ды кветкі. Папрашу, каб пазнаёміла вас.

— Толькі зрабі гэта хутчэй, даражэнькі Чмель, а то мяне хутка скосяць і адвязуць з сенажаці далёка-далёка, — уздыхнула Чырвоная Канюшынка.

Чмель знайшоў Насцейку на тым жа самым лужку. Дзяўчынка спачатку спалохана замахала рукамі, калі ўбачыла яго:

— Адкуль ты прыляцеў, страшны такі?

Калі ж пачула вестку, якую прынёс ёй, заўсміхалася лагодна:

— Дзякуй! Абавязкова пазнаёмлю сястрычак. Крыўдзіцца не будуць.

Схадзіла Насцейка да Чырвонай Канюшынкі, асцярожненька выцягнула яе з зямлі разам з карэньчыкамі, узяла





з сабою. Потым знайшла Белую Канюшынку. І таксама ўзяла з сабою. Дома разгарнула Насцейка вялізны альбом, дзе ўжо ляжала нямала розных лісточкаў ды раслінак, паклала іх у альбоме побач.

— Як цудоўна, што мы сустрэліся, пабачыліся! — узрадаваліся сястрычкі. — І зімою ад холаду калаціцца не давядзецца. Застанёмся ў Насцейкі на ўсю зіму. Тут так цёпленька і ўтульна, ці не праўда? А ўлетку зноў паедзем з ёй у вёску, да сваіх братоў і сясцёр, якія за гэты час падрастуць на нашым лузе.

Сястрычкі-канюшынкі бліжэй прыхінуліся адна да адной і летуценна прыжмурылі кветачкі-вочкі: як і ўсе кветкі, яны ноччу прывыклі спаць.

## ВОЎЧЫЯ ЯГАДЫ

Забалеў у ваўка Зубені жывот — парсючка вылавіў неспадзявана. Стогне воўк, ледзь шкуру на сабе не рве.

— Пашукай чарніцаў, — параіў дзік Рохкала.

— А якія яны?

— Чорненькія такія, смачныя, — чаўкнуў дзік.

Пачула іх размову вавёрачка Маланка, параіла:

— Вазьмі спачатку на язык. Пачарнее — значыць, яны, чарніцы будуць.

— А як я ўбачу, ці чорны язык? — скурчыўся ад болю воўк Зубеня.





— Вазьмі маё люстэрка, — вогненным клубочкам скацілася з хвоі вавёрка. —Толькі вярні потым, не згубі.

— Не бойся, аддам, — ледзь не ўзвыў змэнчаны воўк.

Падаўся ён на ўзлесак: дзе ж яшчэ шукаць тыя цудадзейныя чарніцы? Нечакана заблукаў у кустоўе. А там — ягад, ягад! І ўсе — чорныя. Не проста чорныя, а фіялетавачорныя, з глянцаватым бляскам. Напэўна ж, дужа смачныя, як і казаў дзік Рохкала.

«Чарніцы», — падумаў узрадаваны воўк Зубеня. Пачаў хапаць іх, нават з лісцем есці — аж у роце сцягнула, горкагорка стала. Не гледзячы ў люстэрка, адразу здагадаўся, што язык пачарнеў, бо нейкім шурпатым-шурпатым зрабіўся. Хоць сасновую кару ліжы ім — рады не дасць, стрэмку не загоніць.

Не паспеў нахапацца-наесціся — і жывот перастаў балець. Паразважыўшы, што такое няшчасце з ім здарыцца можа яшчэ не адзін раз, паставіў воўк Зубеня ля таго кустоўя шыльдачку: «Гэтыя ягады — мае». Чые менавіта — вырашыў не тлумачыць: «Хто прачытае, сам здагадаецца».

Потым, адляжаўшыся да вечара, воўк Зубеня нечакана вырашыў: «Пабудую на гэтым участку дачу, каб адпачываць тут пасля палявання».

Ды які з ваўка будаўнік? Перабраўся неўзабаве ў суседні лес, нават люстэрка вавёрцы не вярнуў. І пра ягады забыўся. Толькі назва засталася — воўчыя. Як натрапіце





на іх — не хапайцеся есці, лепш сапраўдных чарніцаў пашукайце. А воўчыя — няхай ваўку застаюцца. Можа, яшчэ ўспомніць пра іх, вернецца на крушынавы ўзлесак. Ці не праўду кажу?

## ПАВУЧКОВЫ АРЭЛІ

Стаялі апошнія сонечныя дзянькі. Каб пагушкацца ўволю, павесіў павучок арэлі. За іх зачапіўся сухі лісток. Вецер гайдаў яго, калыхаў, як нейкую пярынку.

Захацелася мушцы на павучковых арэлях пагушкацца — села на лісток. Гушкалася, гушкалася — і заснула. Спалохаўся павучок: «Што з ёю? Можа, кепска мушцы стала?» Пабег-пакараскаўся па тонкай павуцінцы да таткі, старога павука, які непадалёк плёў сетку: можа, каму яшчэ на гамак спатрэбіцца?

Выслухаў ён павучка дый кажа:

— Дурненькі ты! Яна проста заснула. Блізка халады, зіма. А мухі перад зімою засынаюць. Толькі мушка з халадамі замерзнуць можа. Дык перанясём яе з арэлямі ды лістком туды, дзе цяплей. Ву-унь у тое дупло, дзе вавёрачка зімаваць сабралася. Думаю, яны паладзяць, і мушцы ў яе дупле месцейка знойдзецца.

Узрадаваўся павучок, кінуўся здымаць арэлі. Шкада, што не пагушкаўся, колькі хацеў. Але ж і санлівай мушкі шкада. Загіне — хто ж тады будзе зумкаць яму вясною, калі ён возьмецца ткаць свае першыя павуцінкі?





# НАД НОВЫ ГОД – НЕ БЕЗ ПРЫГОД

## П'ЕСА-КАЗКА

### Дзейныя асобы

Д з е д  М а р о з.
С н я г у р к а.
С ц ю ж а.
В о ў к.
Л і с а.
З а я ц.
Г н о м ы.
Д з е ц і.

На сцэне — лясная паляна. Стаіць святочная ёлка. Крышку далей, збоку — вялікі гадзіннік. Стрэлкі набліжаны да лічбы 12: хутка Новы год. На сцэну вылятае С ц ю ж а ў белым адзенні з галавы да пят.

С ц ю ж а
(*звяртаецца да дзяцей у зале*)

Я — Сцюжа, Сцюжа злая.
Чаго сюды прыйшла я?
Я ўсім спаганю свята,
Памогуць Воўк зубаты
І Лісачка-сястрыца,
На шкоду ой майстрыца!





Гэй, Воўк, Ліса, хутчэй сюды,
Нам трэба нарабіць бяды!

З’яўляюцца В о ў к і Л і с а.

В о ў к
(*да Сцюжы*)

Добры дзень, кума-сяброўка!
Цяжка ў лесе жыць без Воўка?

С ц ю ж а
(*да Ваўка і Лісы*)

Хутка свята, Новы год.
Дзед Мароз пачаў абход.
Як праб’е дванаццаць раз —
Тут ён з’явіцца якраз,
Прынясе вяселле, смех,
Падарункаў цэлы мех.
Замяту шляхі-дарогі —
Дзед не пройдзе, стоміць ногі.
І нікуды ўжо не дзенецца,
З намі нехаця падзеліцца.

В о ў к
(*паказвае на гадзіннік*)

Для пачатку ж, для напасці —
Трэба, мусіць, стрэлкі ўкрасці.





Л і с а
(*падбягае да гадзінніка*)

І ніхто не будзе знаць,
Калі свята пачынаць.

Здымаюць з гадзінніка стрэлкі, хаваюць у мяшок.
Азіраюцца, прыслухоўваюцца.

Л і с а
(*насцярожана*)

Па дарозе скача хтосьці!
Хто яшчэ спяшае ў госці?
Каб на сцежцы не спаткацца,
Трэба нам хутчэй схавацца!

Злосна завываючы, С ц ю ж а, а з ёю В о ў к і Л і с а знікаюць.
З-за ёлкі выбягае З а я ц.

З а я ц
(*весела*)

Гэй, касыя, не хавайцеся,
Каля ёлкі ўсе збірайцеся!
Каб маглі ўцячы заўсёды
Ад Лісы і Воўка, —
Як і морква, неабходна
Зайцам трэніроўка!





Жвава выбягаюць з а й ц ы, весела танцуюць, падскокваюць каля ёлкі. Да ёлкі падыходзіць С н я г у р к а.

С н я г у р к а
(*у захапленні*)

Красуня, ёлачка лясная,
Цябе сягоння не пазнаць:
Ты ўся іскрышся, дзіўна ззяеш
І ўсіх завеш патанцаваць.

Разам з зайцамі танцуе каля ёлкі.

С н я г у р к а
(*засмучана*)

Мой Дзед Мароз — штукар заўзяты,
Ён зранку выбраўся на свята,
Ды тут яго не бачу штось.
А дзе ж ён, дзе, жаданы госць?

З а я ц
(*здзіўлена*)

Ляціць, глядзіце, паштальён!
Нясе нам тэлеграму ён.

Улятае с н я г і р-п а ш т а л ь ё н з тэлеграмай.





С н я г у р к а
(*бярэ тэлеграму, чытае*)

«Зранку ў лесе я блукаю,
Сцежку ўсё не адшукаю.
Кружыць-круціць Сцюжа злая,
Са шляху мяне збівае.
Выручайце, памажыце,
Мне дарогу пакажыце».

(*Звяртаецца да дзяцей у зале.*)

Што рабіць нам? Не чакайце,
Можа, дзеда пагукайце.

Д з е ц і
(*дружна*)

Дзед Мароз, не падвядзі,
Ты хутчэй да нас прыйдзі!

Д з е д   М а р о з
(*голас здалёку*)

Не магу-у-у!
Сцюжа, як віхор, лятала,
Сцежкі ўсе пазамятала.
Многа снегу — не прайсці.
Хто паможа разграбці?





С н я г у р к а

Нам памогуць чалавечкі,
Што ў бары жывуць ля рэчкі
І, відаць, усім знаёмы.
Ну, вядома ж, гэта — гномы!

Выбягаюць г н о м ы. Танцуюць, «разграбаюць» снег.

Д з е ц і

Дзед Мароз, не падвядзі,
Ты хутчэй да нас прыйдзі!

Д з е д  М а р о з

Не магу-у-у!
Згаслі зорачкі даўно,
Мне нічога не відно.
Вы ліхтарыкі вазьміце
І дарогу асвяціце.

На сцэну выбягаюць д з е ц і з ліхтарыкамі, танцуюць.

Д з е ц і
(*з залы*)

Дзед Мароз, не падвядзі,
Ты хутчэй да нас прыйдзі!





Д з е д  М а р о з
(*голас здалёку*)

Не магу-у-у!
Шмат сцяжынак прада мной,
Не знайду ніяк адной,
Той, каб мог да вас прыйсці.
Як патрэбную знайсці?

С н я г у р к а

Між бяроз, асін і елак
Ручнікамі шлях засцелем.
Будзе снег тады не ў страх,
Шлях расчысцім, з лесу шлях.

Раздае ручнікі дзецям. Тыя перадаюць ліхтарыкі зайцам і гномам. А самі танцуюць з ручнікамі.

Д з е ц і
(*дружна*)

Дзед Мароз, не падвядзі,
Ты хутчэй да нас прыйдзі!

Уваходзіць Д з е д  М а р о з.





Д з е д  М а р о з
(*уздыхае, здымаючы мяшок з плячэй*)

Пад Новы год, пад Новы год
Дзівос нямала і прыгод.
Ой паблукаў! Ой нахадзіўся!
У лесе ледзь я не згубіўся.
Ды дзякуй, дзякуй шчыры вам —
І дзеткам мілым, і звярам!
Сюды без вас, маіх сяброў,
Дарогі б, пэўна б, не знайшоў.
Пара нам свята пачынаць.
Ці б'е гадзіннік — не чуваць.
Хто вінаваты, я ўжо знаю:
Гэй, Воўк, Ліса і Сцюжа злая,
Вярніце стрэлкі! Час ляціць,
Пара, відаць, дванаццаць біць.

С ц ю ж а, Л і с а  і  В о ў к  дастаюць з мяшка стрэлкі, прыладкоўваюць да гадзінніка.

С ц ю ж а, В о ў к, Л і с а
(*вінавата*)

Даруйце нам! І не ганіце,
У карагод з сабой вазьміце.

С н я г у р к а

Ну што, даруем ім?





У с е

Даруем!

Д з е д  М а р о з

На свяце ёлкі —
Пасябруем!
А зноў нашкодзіце — тады
Вам не ўцячы ўжо ад бяды!

Сцюжа, Воўк і Ліса далучаюцца да ўсіх, хто сабраўся каля ёлкі. Пачынаюць вадзіць карагод.

Д з е д  М а р о з
(*тупае побач, пастуквае кіем, радуецца*)

Што за дзіва — наша ёлка!
Што за свята — Новы год!
Ззяй жа, ёлка, як вясёлка,
Запрашай у карагод!

Гучыць вясёлая музыка. Усе сыходзяцца ў карагодзе — і тыя, хто быў на сцэне, і тыя, хто сядзеў у зале.





# ЛАСКАВАЕ СОНЕЙКА

*Музыка Алега Чыркуна*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Кожны дзень, як гаснуць зоры,
Рупна сонейка ўстае
І ласкава і бадзёра
Нам па промню раздае.

*Прыпеў:*

Сонейка, сонейка,
Ты прыходзь, як ласка.
Сонейка, сонейка
Ты прыходзь, як казка.

Промні ў вокнах залацяцца,
Усміхаюцца ў вачах.
Многа сонца — многа шчасця,
Свет спявае ў гэты час.

*Прыпеў.*

Сонца сцеле промні-сцежкі
Да лугоў, азёр, бароў.
Сонца — ўсмешку,
Мы — усмешку…
Колькі ў сонейка сяброў!

*Прыпеў.*



**75**

# Ласкавае сонейка

Весела



Кож- ны дзень, як згас- нуць зо- ры, руп- на со- ней- ка ўста- е і лас- ка- ва,



і ба- дзё- ра нам па пром- ню раз- да- е. Со- ней- ка, со- ней- ка, ты пры- ходзь, як



лас- ка. Со- ней- ка, со- ней- ка, ты пры- ходзь, як каз- ка.// каз- ка.







# ПЕСНЯ ЮНЫХ МІНЧАН

*Музыка Соф'і Альхімовіч*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Горад светлы, малады,
Горад шчасця весняга,
Стаў для нас ты назаўжды
Самай звонкай песняю.

Будзеш сэрцы хваляваць
Векапомнай славай,
Будзеш сэрцы саграваць
Шчырасцю ласкавай.

Будзіць ранак цішыню,
Па-над плошчай днееццa.
Гальштук Вечнага агню
Зырка палымнееццa.

Горда ўзняўся абеліск,
А наўкол — палацы.
Горад мужнай славы — Мінск,
Горад рупнай працы.

З намі — ты, а мы — з табой.
Мары ў нас адзіныя.
Прыгажэй, здзіўляй красой,
Цеплынёй гасціннаю.





# Песня юных Мінчан

У ТЭМПЕ ВАЛЬСА




1. Го – рад свет – лы, ма – ла – ды,
стаў для нас ты на – заў – жды




го – рад шча – сця вес – ня – га,
са – май звон – кай пес – ня –




– ю. Бу – дзеш сэр – цы хва – ля – ваць



ве – ка – пом – най сла – вай.




Бу – дзеш сэр – цы са – гра – ваць шчы – ра –




– сцю лас – ка – вай. //–то – ю.

Расцвітай жа, Мінск-герой,
Нібы сад вясною!
Ззяе сонца над табой
Зоркай залатою.





# ВАСІЛІНКІ-ВАСІЛЬКІ

*Музыка Кіма Цесакова*
*Словы Міколы Чарняўскага*

У вачах агню іскрынкі.
Скачуць, быццам матылькі,
З Васілінак — Васілінкі,
З Васількова — Васількі.

*Прыпеў:*

Ды адзін не скача Васілёк,
Сумны, сеў на ўзмежачку здалёк.
Прынясу я хутка кісялю,
Потым Васілька развесялю.
А кісель салодзенькі, як мёд.
Гэй, Васіль, да нас у карагод!

Не сціхае гуд чмяліны
Над сінечай васількоў:
Гляньце, колькі Васілінак,
Гляньце, колькі Васількоў!





# Васілінкі-васількі

Не вельмі хутка



У ва- чах аг- ню іс-крын-кі, ска- чуць, быц- цам ма- тыль- кі,



з Ва- сі- лі- нак - Ва- сі- лін- кі, з Ва-сіль-ко -ва -Ва-сіль-кі. Ды а- дзін не



ска- ча Ва- сі- лёк, сум- ны, сеў на ўзме- жач- ку зда- лёк.



Пры- ня- су я хут- ка кі- ся- лю, потым Васілька раз-ве- ся- лю.



А кі- сель са- лодзенькі,як мёд. Гэй, Ва- сіль, да нас у ка- ра- год!

*Прыпеў:*

Ды адзін не скача Васілёк,
Сумны, сеў на ўзмежачку здалёк.
Прынясу я хутка кісялю,
Потым Васілька развесялю.
А кісель салодзенькі, як мёд.
Хто яшчэ да нас у карагод?





# ПОЛЕЧКА «ТРАСУХА»

*Музыка Андрэя Пыталева*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Ой вы, госці дарагія,
Падзівіцеся на нас:
Слаўнай полечкай «Трасухай»
Павітаць мы рады вас.

Беларускія дзяўчаткі
Самыя чароўныя:
Косы — спелая пшаніца,
Вочы — сінь азёрная.

Нашы хлопцы-беларусы
Спрытныя і смелыя,
Да работы кожны здатны,
Рукі ў іх умелыя.

Зазірае сонца ў вокны,
Ласкава ўсміхаецца:
І яму «Трасуха» наша
Вельмі падабаецца.





# Полечка «Трасуха»

**Весела**

Ой вы, го_ сці да_ ра_ гі_ я,

па_ дзі_ ві_ це_ ся на нас: слаў_ най по_ леч_

_кай «Тра_ су_ хай» па_ ві_ тацць мы ра_ ды вас.

//па_ ві_ тацць мы ра_ ды вас.

Танец







# МАМІНА СВЯТА

*Музыка Алега Чыркуна*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Ёсць дзень такі ў сакавіку,
Ёсць дзень такі ў прадвесня:
Ён вельмі рады раўчуку,
Ён вельмі рады песням.

*Прыпеў:*

Сакавік, сакавік —
Сонейка багата.
Сакавік, сакавік —
Кожнай мамы свята.

Ён сыпле сонечным святлом —
Настрой знікае змрочны,
Ён зазірае ў кожны дом,
Дзень гэты — дзень святочны.

*Прыпеў.*

А сонца ў вокны промні шле,
Наўсцяж гусцее просінь.
Праменьчык слізгануў па шкле —
І вывеў лічбу ВОСЕМ.

*Прыпеў.*





# Маміна свята

Умерана

Ёсць дзень та- кі ў са- ка- ві- ку, ёсць дзень та- кі ў прад- вес - ня: ён

6 вель- мі ра- ды раў- чу- ку, ён вель- мі ра- ды пес- ням. Са- ка- вік,

11 са- ка- вік- со- ней- ка ба- га- та. Са- ка- вік, са- ка- вік-

16 кож- най ма- мы свя- та. свя- та.

І я не сплю, бо знік спакой, —
Малюю кветкі маме.
І не алоўкі пад рукой —
Праменьчыкі трымаю.

*Прыпеў.*



84

# ЁЛКА-ВЯСЁЛКА

*Музыка Анатоля Ізотава*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Завітала ў госці ёлка —
З намі Новы год спаткаць.
Ззяе ёлка, як вясёлка,
Рада пець і танцаваць.

Зухаваты, барадаты
Сыпле жарты Дзед Мароз.
Са Снягуркаю на свята
Падарункі ён прынёс.

Вочы весняцца ў Снягуркі,
Добра ўсім каля яе:
Нам Снягурка падарункі,
Як усмешкі, раздае.

Што за дзіва — наша ёлка!
Што за свята — Новы год!
Ззяе ёлка, як вясёлка,
Водзіць з намі карагод.



**85**

# Ёлка-вясёлка




За- ві- та- ла ў гос-ці ёл- ка, з на-мі Но-вы год спат- каць.



Ззя- е ёл- ка, як вя-сёл- ка, ра- да пець і тан- ца- ваць.



Ля- ля, ля- ля- ля, ра- да пець і танцаваць.







# ПЕСНЯ ПРА КАТА

*Музыка Уладзіміра Будніка*
*Словы Міколы Чарняўскага*

Люлі, люлі, люлі!
Кот зрабіў хадулі.
Шыбаваў дамоў наўпрост,
Наступіў сабе на хвост.

Люлі, люлі, люлі!
Кінуў ён хадулі.
І памчаў дахаты.
Кот дзівакаваты!

Боль суняўся, боль мінуў…
Кот хвастом-трубой вільнуў
І пабег трушком на гаць,
Каб хадулі падабраць…

Доўга-доўга кот блукаў,
А хадуль не адшукаў.
Люлі, люлі, люлі!
Хто падняў хадулі?



## 87

# Песня пра ката

Умерана



Лю-лі, лю-лі, лю-лі! Кот зра-біў ха- ду- лі. Шы-ба-ваў дамоў наўпрост,



на- сту- піў са- бе на хвост. Лю-лі, лю- лі, лю- лі! Кі- нуў ён ха- ду- лі.



І - наў скач да ха- ты кот дзі-ва-ка-ва-ты! Боль су- няў- ся, боль мі- нуў...



Кот хвастом -трубой вільнуў і па- бег трушком на гаць, каб ха- ду- лі па-даб-раць...



Доў- га доў- га кот блу- каў, а ха- дуль не ад- шу- каў. Лю-лі, лю- лі, лю- лі!



Хто падняў хадулі? Лю-лі, лю-лі, лю-лі! Хто падняў ха- ду- лі?





# Змест

## Колькі ў сонейка сяброў!



## Любімы занятак, альбо Хто сказаў «кай-й, кай-й»?







**Я — сонейка, альбо Чаму майка кароткай стала**



**Хвілінкі-весялінкі ад Мікіткі і Ангелінкі**





## Дзеткі-краскі, любіце казкі?



## Хто да нас у карагод?
## (Песні)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чарняўскі** Мікалай Мікалаевіч

**Колькі ў сонейка сяброў!**

*Апавяданні-гумарынкі, вясёлыя вершы, казкі, скорагаворкі, лічылкі, загадкі, навагодняя казка-п'еса, песні*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *М. Маляўка*
Камп'ютэрны набор і вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Аскерка*

Падпісана да друку 9.06.2009.
Фармат 60x84 1/16.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Гарнітура Times.
Ул.-выд. арк. 4,9. Ум. друк. арк. 1,59.
Наклад 400 асобнікаў. Зак. 507.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.